# Што чытаюць „на раёне“?

Бываючы ў камандзіроўках у раёнах вобласці, абавязкова стараюся завітаць у рэдакцыю мясцовай газеты. Шмат там знаёмых і нават сяброў. Але вось што заўважаецца: з кожным годам усё менш бывае размоў, высокім шчылем гаворачы, пра справы творчыя, нават пра проста журналісцкія. Трэба прызнаць, што і раней рэдакцыі «раёнак» найдалей ад іншых адстаялі ад гэтага «высокага шчылю». У застойныя часы ім даводзіліся планы па бураках і сену, як любой іншай раённай канторы, потым іх гэтак пачалі прыціскаць матэрыяльна, што ўжо наўрад ці сёння знойдзецца ў вобласці рэдактар, які б не ўзяў сабе ладны кавалак зямлі, не корпаўся б на ім у зямлі-карміцельцы, не зважаючы на свае пасаду і вагу сярод мястэчкоўцаў. Абы выжыць, абы сапраўды пракарміцца. І ў гэтай абстаноўцы вытлумачальным становіцца амаль паўсюдная нейтралізацыя рэдакцыйных калектываў. Іх падкрэсленая абыякавасць да палітычных падзей, адасабленне ад якога-небудзь адкрытага выяўлення палітычнай прыхільнасці. Большасць раённых журналістаў (есць, безумоўна, і выключэнні), бліжэе да чыноўніцкага асяроддзя, якое паслухмяна прымае любое новае веянне ці кіраўніцтва, маўкліва, хаця і без старання, выконвае адведзеную яму ролю.

Між тым некалькі гадоў сярод рэдакцыйных калектываў вобласці не тое, што завіравала новае жыццё, але адбыліся прыкметныя зрухі, перастаноўкі, пачалі з'яўляцца новыя выданні. Завадатарам быў, зразумела ж, Віцебск. Тут дэпутаты абласнога Савета палічылі мэтазгодным (і знайшлі сродкі — галоўнае!), каб пачала дзейнасць яшчэ адна газета — «Народнае слова», у многім апанентная «Віцебскаму рабочаму». Сёння гэта дзве прызнаныя абласныя газеты са сваім чытачом, з рознымі поглядамі на падзеі і працэсы ў грамадстве і з аднолькавымі, дарэчы, сузаснавальнікамі.

Так, пачыналася ў Віцебску, відаць, і нядрэнна ў тым накірунку, каб мелі мы прэсу добрай і рознай. З'явілася гарадская газета, потым яшчэ адна і яшчэ. Сённяшні віцябчанін мае магчымасць выбраць якое-небудзь выданне па сваму густу, а то і схільнасцях. Але гэта ў абласным цэнтры. Калі ж глянуць на абсягі Віцебшчыны, то тут часы ў журналістыцы памяняліся нязначна нават з гадоў «кіруючай і накіроўваючай». Мяркуйце самі. Ну, з'явілася ў Наваполацку яшчэ адна газета, якая была заснавана мясцовым гарсаветам, а дакладней усё такі па ініцыятыве яго старшыні. Стала новая газета на дэмакратычныя пазіцыі, але ж і ранейшы «Хімік», па свайму новаму стану газеты незалежнай ад уладных структур павінен ніbyта знаходзіцца на гэтым жа фланзе. Таму, напэўна, усчалася паміж двума выданнямі досыць вострая, але драбнаватая пікіроўка, якая не стварыла аўтарытэту. Пачыналася нейкае выданне ў Оршы, але прафсаюзы неўзабаве заняліся іншым. Нейкі час існавала касцёльная газета ў Мёрах. Выдаюць тутэйшыя сацыял-дэмакраты «Сумежжа» ў Паставах, але з-за адсутнасці сродкаў выданне ледзьве ліпее. Гэтакі ж лёс па ўсім відаць, чакае і «Вольнае Глыбокае», якую перад апошнімі выбарамі пачалі выдаваць прадстаўнікі мясцовай філіі БНФ.

Вось пералік практычна і закончаны. Ніводнае выданне, не падтрыманае ўладамі, не змагло моцна стаць на ногі, заявіць аб сабе, набраць тыраж у рэшце рэшт.

Таму можна з поўным правам сказаць, што інфармацыйную прастору Віцебскай глыбінкі займаюць 22 раённыя і аб'яднаныя, у больш буйных гарадах, газеты, якія існавалі яшчэ і пры «тых» саветах, існавалі і пад Камуністычнай партыяй і ў якіх органы выканаўчай улады на месцы, так званай вертыкалі, сталі сапраўды ўладнымі заснавальнікамі. Нехта можа мне запярэчыць, што «інфармацыйную прастору займаюць» выраз не зусім дакладны. Ёсць жа абласны друк, ёсць рэспубліканскія газеты ў рэшце рэшт, якія дастаўляюцца пакуль што ў раёны спраўна ці больш менш спраўна і таксама маюць свайго чытача. Мушу не поўнасцю пагадзіцца. Абласныя газеты маюць невялікі тыраж, да таго ж перавагу ім аддаюць насельнікі Віцебска. Тыражы рэспубліканскіх звычных па назве газет скарачаюцца, новыя выданні ў глыбінцы шырокага распаўсюджвання не атрымліваюць. Так што застаюцца тыя самыя раённыя і аб'яднаныя. Яны таксама страцілі многіх сваіх чытачоў, але і сёння «на круг» маюць іх нямнога, нямала — сто тысяч. Такім тыражом на адну вобласць не пахваліцца ніводная «салідная газета».

Вясковы местачковы чытач, аддаючы перавагу сваёй «раёнцы» з-за яе адноснай таннасці, з-за звычнасці, з-за таго, што менавіта яна інфармуе аб тым, напрыклад, дзе будуць прадавацца ўвесну кураняты, хто памер, прывычаіўся даўна і аб асноўных падзеях складваць сваё меркаванне з дапамогай «раёнкі». Прывычка адно, а другое, што раённая газета, калі ўжо і піша «пра палітыку», то дае гэта ў настольк, прабачце, разважным выглядзе — такой яе зразумее нават непісьменны дзядок на печы. Гавораць жа што самыя ўстойлівыя стэрэатыпы — гэта самыя простыя стэрэатыпы, якія нараджаюць, сілкуюць, аберагаюць зусім не акадэмічныя выданні.

Чаму ж друк на месцах не атрымаў належнага развіцця, не стварыў нічога новага, не падхапіў ініцыятыву сталіцы, абласных цэнтраў? Канечне ж, адсутнасць матэрыяльнай базы, дакладней яе зародкавы стан. (Дастаткова сказаць, што многія «раёнкі» на Віцебшчыне друкуюцца яшчэ на ратацыйных машынах шасцідзесятых гадоў). Канечне ж тое, што

(Заканчэнне на 4-й стар.)

# Глыбоцкія кантрасты

Колькі сябе памятаю, а Паставы і Глыбокае, як мястэчкі-суседзі, паміж сабой мелі цесныя сувязі, раўняліся адзін на другога, сапернічалі нават у чымсці. Цяпер дабрацца да суседняга райцэнтра на аўтобусе стала праблематычна, вельмі рэдка яны ходзяць ды і кошт паездкі высокі. А вось прыгарадным цягніком зараз зручна. Так і зрабіў, а праз паўтары гадзіны быў ужо у Глыбокім, шмат чаго пабачыў і міжволі параўноўваў з нашай пастаўскай рэчаіснасцю...

Гарадскія аўтобусы, як і ў нас, цяпер ходзяць там зрэдку, вялікі інтэрвал паміж рэйсамі. Для людзей адно толькі добра зрабілі, што на прыпынках ёсць расклад руху, можна даведацца, колькі табе яшчэ прыйдзецца чакаць (чаго ў Паставах няма), каб паехаць. Чакаць звычайна доўга і вельмі многія пешшу ходзяць. Крызіс, заняпад адчуваецца ўжо па выгляду цэнтральных вуліц, раней асфальт быў раўнейшы і чысцейшы (у Паставах вуліцы значна лепш дагледжаныя), цяпер жа часцякам у Глыбокім выбоіны, дамы не такія прыгожа размаляваныя, як былі пару гадоў назад. Але ёсць і добрыя ўражанні.

Вельмі спадабалася мне цэнтральная глыбоцкая плошча, ажыўленая і рознакаляровая ад латкоў, магазінчыкаў, аўтамашын. У некалькіх кроках ад сямiпавярховага Дома Саветаў размясціўся ўтульны міні-рынак. Тут пад драўлянымі навесамі заўсёды з раніцы да вечара шматлюдна. Рады прамысловых тавараў чаргуюцца з харчаваннем. Усе дары глыбоцкай зямлі тут можна сустрэць і купіць. Прыязджаюць, як і ў Паставах, людзі з бліжэйшых вёсак, але іх тут міліцыяй не ганяюць, а даюць магчымасць крыху папоўніць свой бюджэт. Не прыйшло ў галаву мясцовым уладам адпраўляць іх на цэнтральны рынак, можа таму, што статуі дзядулі Ільіча тут на плошчы няма. А трывала пасяліўся долар, банк мае свой абменны пункт.

Наогул на Глыбоччыне здаўна моцны быў гандаль. Зараз тут першымі ў сістэме спажыўкааперацыі Віцебшчыны асобныя гандлёвыя кропкі мясцовага райспажыўсаюза перайшлі на поўны гаспадарчы разлік. Спачатку гэтыя магазіны працавалі на арэндзе, цяпер жа яны атрымалі правы юрыдычных асоб, свае разліковыя рахункі ў банку, атрымалі магчымасць самастойна закупляць тавары. Гандлёвая спецыялізацыя зноў створаных магазінаў, праўда, захавана, але асартымент іх кіраўнікі могуць пашыраць па ўласнаму меркаванню. Новаўвядзенне адразу прынесла свой плён, і толькі ў самым першым гаспадарчаразліковым магазіне «Надзея», створаным на базе двух аддзелаў розніцы спажыўсаюза, аб'ём гандлю павялічыўся за месяц на 24 працэнты. Станоўча, што ў Глыбокім пайшлі далей не толькі ў арганізацыі прагрэсіўнага гандлю, але і становяцца заканадаўцамі моды і для школьнікаў. Па крайняй меры ўніверсальныя спадніцы-сарафаны для дзяўчынак, штаны, касцюмы для школьнікаў, якія распрацаваны мадэльерамі-тэхнолагамі швейнага цэха, з задавальненнем раскупілі пакупнікі не толькі Глыбокага, але і Браслава, Гарадка, куды накіравалі партыі новай нестандартных колераў школьнай формы.

Прыемнае ўражанне на мяне аказаў і яшчэ адзін незвычайны магазін. Незвычайны ён тым, што размясціўся ў правым крыле будынку ў цэнтры, дзе размяшчаецца раённае Упраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання. Заснавалі гэтую краму фірма «Верас», шэраг калгасаў і саўгасаў раёна, а таксама Глыбоцкі доследны лясгас. З дня адкрыцця ён стаў папулярным і прываблівае глыбачан не толькі сучасным дызайнам, але перш за ўсё цэнамі, якія значна таннейшыя, чым у дзяржгандлю. Гэта невыпадкова, бо большасць прадуктаў і тавараў ідзе прама з поля ад вытворцаў, з якімі заключаны дагаворы. У прыватнасці, калгас «Кастрычнік» пастаўляе сліўкі і іншыя малочныя прадукты, калгас «Герой працы» — каўбасы і вяндліну ўласнага мясаперапрацоўчага цэха, калгас «За Радзіму» — насенне, бульбу, зерне і так далей. У гэтым новым універсаме можна купіць і іншыя танныя якасныя прадукты і прамтавары, у выйгрышу апынуліся ўсе. Непадалёку ад гэтай гандлёвай кропкі ў будынку, дзе размешчана ДАІ, працуе яшчэ адзін ужо прыватны магазін еўрапейскага ўзору і якасці тавараў. Толькі грошы трэба мець, а выбраць ужо ёсць што...

Дарэчы аб грошах. Сітуацыя ў Глыбокім крыху лепшая, бо горад — буйны цэнтр харчовай прамысловасці, заводы працуюць. Але ўсё больш расце разрыў паміж узроўнямі заробкаў на асобных прадпрыемствах, а па раёну ён складае амаль 17 разоў. Летам самая вялікая зарплата была атрымана работнікамі Глыбоцкага аддзялення банка «Поўнач-Захад» — у сярэднім 2,07 млн. рублёў. Яўны аўтсайдэр тут цагляны завод, 11 работнікаў якога «задаволіліся» толькі 122,7 тысячамі. На малочна-кансервавым камбінаце зарабляюць у сярэднім па 1,6 млн. рублёў, на камбікормавым заводзе — па 1,3 млн., у раёне электрасетак — па 1,4 млн. рублёў у месяц. Цікава, што калі 18 упраўленцаў таго ж райсельгасупраўлення змаглі зарабіць у ліпені па 1,288 млн. рублёў, то ў больш 5 тысяч вяскоўцаў у сярэднім выйшла па 417,6 тыс. рублёў. Мізэрныя заробкі ў 790 медработнікаў Глыбоччыны — толькі 490,5 тыс. рублёў, у райбыткамбінаце яшчэ горш, у сярэднім па 343,6 тыс. рублёў.

Ну, з гэтым нашы Паставы мала чым адрозніваюцца ад Глыбокага. Падалося, што паўсюдна людзі стомленыя такім жыццём, усё менш спадзяюцца на лепшыя перамены ў будучым.

**УЛАДЗІМІР ШЫК,**
**агенства РІД,**
**спецыяльна для «Сумежжа».**

**ПОГЛЯД**

# „Мама мыла нары“—

**сцвярджалі аўтары буквара трыццаць сёмага года выдання. Ці з'явяцца падобныя словы ў новым буквару?**

Трагікамічная фраза ў буквары, па якому навучалася пакаленне савецкіх людзей, з'явілася невыпадкова. Пэўна, мелася на ўвазе мама «кулака» ці «вредителя». Каб ня быць галаслоўным, прывяду вытрымкі з буквара паўвекавой даўнасці супастаўляючы іх з нядаўнімі падзеямі.

«Письмо селькора Селькор Жуков написал в «Правду» письмо. Жуков писал: «В правлении колхоза засели Коньков и Оськин. Коньков — кулак. Оськин держал ранее лавку. В колхозе только убытки. Борьбу с кулаками никто не ведет». «Правда» проверила письмо селькора. Раскрыла проделки кулаков. Обнаружили кражу. Передали дело в суд. Суд осудил Конькова и Оськина на 10 лет».

Не ведаю, на каго якое ўражанне мела гэта апавяданне з буквара, а мне прыгадаліся рэплікі кіраўніка краіны пад час вядомых падзеяў у Мінску, звязаных з забастоўкай на метро. Дакладней гаворачы, не той самы выступ Лукашэнкі па тэлебачанню, а спіс нядобразычліўцаў Беларусі, які прэзідэнт агучыў на сустрэчы. Аказваецца ў ягоным кабінеце ёсць свой «селькор» палкоўнік Замяталін, які так падставіў свайго гаспадара, калі пра неіснуючую забарону школьных падручнікаў быццам выказаўся. Цяпер прэзідэнт перад мільёнамі тэлегледачоў чарговы данос упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі раскрыў, так сказаць «проделки» польскай «Салідарнасці», амерыканцаў, БНФ а яшчэ і Генадзя Карпенкі.

У душы ў мяне тады з'явілася пачуццё смутнай трывогі, хоць спачатку меў нейкія сімпатыі да новага беларускага кіраўніцтва. Але ці можна ўсенародна абранаму лідэру ў апошні час зусім забываць аб такім юрыдычным паняцці, як прэзумпцыя невінаватасці? Ці можна кідацца яшчэ не праверанымі і недаказанымі фактамі? Вельмі хацелася спадзявацца, што гэта выпадковасць, выкліканая неастыўшай яшчэ заклапочанасцю сітуацыяй і злосцю да актывістаў свабоднага прафсаюза. Аднак далейшае развіццё падзеяў, арышт нават дэпутатаў (!), забарона прафсаюза зноў прымусілі мяне звярнуцца да буквара трыццаць сёмага года.

Адкрыўшы яго, прачытаў наступнае: «... Все колхозники удивились тому, что услышали про Котова. Он всегда такой тихий. Он всегда был за хлебозаготовки. Но колхозник Рубин рассказал, что у Котова родные высланы на Север. Все стало понятно». Відавочнае неверагоднае? Але, на жаль, усё больш пераконваюся, што гэта быццам знак будучай бяды. Раней у нашай маладой дзяржаве не было столькі псіхозу і падазронасці, не чулі столькі беспадстаўных абвінавачванняў у нацыянал-фашызме, як у апошні час. І не дзе-небудзь, а на самым вышэйшым узроўні.

Яшчэ нядаўна усім нам з дзяцінства дзяўблі ў галаву, што камуністычная партыя і ідэалогія — вышэй любога закона. Зараз падобна на змену адной ідэалогіі прыходзіць другая, але прынцыпы застаюцца тыя ж. Многія ўладу трымаючы на дзіва ўзялі на ўзбраенне старыя камуністычныя лозунгі: «Кто не с нами, тот против нас» і нават «Если враг не сдается, его уничтожают».

Памятаеце, як у вядомым кінафільме капітан Жаглоў у цудоўным выкананні артыста Высоцкага перакананa сцвярджае: «Вор должен сидеть в тюрьме!» Толькі ці многія нашы суграмадзяне падтрымліваюць Валодзю Шарапава, які даказваў, што злодзей павінен сядзець, але па закону. Не памылюся, калі скажу, што нямногія. Таму што за доўгія гады ў нашых людзей не толькі не разбурылася, але і умацавалася вера ў гэткага добрага і справядлівага правіцеля, які стаіць над законам, і што закон быццам тое дышла. Ды і які аўтарытэт можа быць у Закона, Канстытуцыі, парламентарызма, калі яго заўсёды можна было (у тым ліку і зараз растаптаць) павярнуць у патрэбную камусьці каляю? Дык няўжо мы гэта і зараз не зразумеем і якое тады будучае нас чакае?

**А. Л.**

